www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

№ 59 (4311)

27 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАД ГРАДУСАМ

## Спёка на падыходзе!

Сіноптыкі папярэджваюць: у суботу днём па ўсходняй палове краіны, а ў нядзелю на большай частцы тэрыторыі максімальная тэмпература паветра дасягне **+30…+32°С.**

У Мінску ўдзень 29 ліпеня максімальная тэмпература паветра дасягне **+30…+32°С.**

КОНКУРС

## Нацыянальная акадэмія навук шукае 100 талентаў

Гэта выцякае з умоў конкурсу, аб'яўленага на сёлетні год. Ён так і называецца: "100 талентаў Нацыянальнай акадэміі Беларусі".

У конкурсе могуць прыняць удзел кандыдаты навук ва ўзросце да 30 гадоў і дактары навук, якім яшчэ не споўнілася 40 гадоў. Пераможцы будуць мець грашовую прэмію ў памеры да 50 базавых велічынь і грант на ўдзел у міжнародным навуковым мерапрыемстве.

АФІЦЫЙНА

## Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў канцы года складуць 6,5 мільярда долараў

Такая лічба прагучала ўчора на пашыраным пасяджэнні праўлення Нацыянальнага банка.

Інфляцыя чакаецца ў межах ніжэй за 6 працэнтаў.

АБЗАЦАМ

## Кодэкс дзяржаўнага служачага хочуць распрацаваць у Беларусі

"Ёсць закон аб дзяржаўнай службе, у цяперашні час у яго ўносяцца дапаўненні і змяненні, – цытуе belta.by кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Наталлю Качанаву**. – Але разам з тым была пастаўлена задача распрацаваць, магчыма, статут дзяржаўнага служачага, магчыма, кодэкс. фармалізаваць усе патрабаванні ў адзіным дакументе – гэта правільна".

## Прамы авіярэйс можа звязаць Мінск і Шанхай

Гэта адна з дамоўленасцяў, дасягнутых учора на сустрэчы старшыні Мінгарвыканкама **Андрэя Шорца** з прадстаўнікамі дэлегацыі з раёна Новы Пудун Шанхая.

## Турыстам — «зялёнае святло»

3 сённяшняга дня пачынае дзейнічаць 30-дзённы бязвізавы рэжым знаходжання ў Беларусі замежнікаў. Як вядома, Указ беларускага кіраўніка №295 ад 24 ліпеня ўносіць змены ў дакумент, які быў прыняты ў студзені 2017 года і ўстанавіў 5-дзённы бязвізавы рэжым. Цяпер жа без візы можна знаходзіцца 30 дзён, але пры гэтым уезд у краіну магчымы толькі праз Нацыянальны аэрапорт Мінск.

УСМЕШКА МАСТАКА

## Курыная змова




Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Беларусі западозрыла ў цэнавай змове сем буйнейшых вытворцаў курынага мяса. Прычынай для пачатку расследавання стаў рэзкі рост цэн на прадукцыю ў чэрвені–ліпені, які прывёў да яе падаражання амаль на трэць.

Паводле меркавання экспертаў, аб'ектыўных прычын для такога аднамомантнага росту цэн на мяса курыцы не было, таму яно "мае ўсе прыкметы цэнавай змовы".

Па беларускіх законах расследаванне можа цягнуцца да трох месяцаў, але чыноўнікі антыманапольнага міністэрства абяцаюць паскорыць працэс, "разумеючы сацыяльную адказнасць і неабходнасць далейшага вырашэння пытання".

Штраф за цэнавую змову, калі такая будзе даказана, можа складаць для вытворцаў да 10 працэнтаў гадавой выручкі ад рэалізацыі ўсяго мяса птушкі.

ЛЮСТЭРКА

## Каму беларусы давяраюць больш: ЕС ці ЕАЭС?

*Праект «EU NEIGHBOURS east», які фінансуецца Еўрасаюзам, правёў у Беларусі апытанне грамадскай думкі метадам асабістых інтэрв'ю з рэпрэзентатыўнай выбаркай, было апытана 1000 рэспандэнтаў. Вось яго асноўныя высновы.*

- 77% беларусаў ставяцца да ЕС або станоўча, або нейтральна, і толькі 18% – адмоўна.
- 50% беларусаў лічаць, што ў Беларусі добрыя адносіны з Еўрапейскім Саюзам – няшначнае памяншэнне ў параўнанні з 54% у 2017 годзе.
- 47% жыхароў Беларусі маюць давер да ЕС, у Еўразійскага эканамічнага саюза дакладна такі ж паказчык даверу (47%).
- 61% беларусаў лічаць, што мір, бяспека і стабільнасць з'яўляюцца самымі важнымі асабістымі каштоўнасцямі; найбольш надзённымі праблемамі былі названы нізкія заробкі і пенсіі (60%) і беспрацоўе (55%).

Апытанне праводзілася ў сакавіку/красавіку 2018 года ва ўсіх шасці краінах "Усходняга партнёрства": Арменіі, Азербайджане, Беларусі, Грузіі, Рэспубліцы Малдове і Украіне.

ШЧАСЛІВЫ ВЫПАДАК

## Пад Бабруйскам мужчына заснуў на шпалах, над ім праехаў цягнік

*Інцыдэнт здарыўся ноччу 25 ліпеня на перагоне Бярэзіна–Бабруйск.*

"40-гадовы бабруйчанін п'яным спаў на шпалах, калі над ім праехаў лакаматыў і 30 грузавых вагонаў. Машыніст прымяніў экстраннае тармажэнне, заўважыўшы мужчыну. Лакаматыўная брыгада разбудзіла яго і дапамагла выбрацца з-пад саставу", – распавялі ў Міністэрстве ўнутраных спраў.

На мужчыну склалі пратаколы за з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення і праход па чыгуначных шляхах або знаходжанне на чыгуначных шляхах у неўстаноўленым месцы.

Затрымка ў руху цягніка склала 50 хвілін.

## Выратаваў ад смерці

*Супрацоўнік ДАІ Партызанскага РУУС г. Мінска адгаварыў дзяўчыну ад спробы здзейсніць самагубства.*

25 ліпеня старшы інспектар па арганізацыі дарожнага руху маёр міліцыі **Леанід Харламаў** заўважыў, што дзяўчына збіраецца сігануць з моста. Харламаў загаварыў з дзяўчынай і тая распавяла, што яе кінуў малады чалавек, і яна не бачыць іншага выйсця, толькі самагубства.

Маёру ўдалося пераканаць дзяўчыну не скакаць з моста.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Сярэдняя зарплата ў Беларусі ў чэрвені склала 953,7 рубля

Такую лічбу назваў днямі Нацыянальны статыстычны камітэт. У маі сярэдняя зарплата была ў межах 943,9 рубля.

Традыцыйна лідзіруе па гэтым паказчыку Мінск: сярэдняя зарплата работнікаў сталіцы за чэрвень склала 314,7 рубля. У Мінскай вобласці яна дасягнула 954,9 рубля, у Гомельскай – 860,5, Брэсцкай – 827,5, Гродзенскай – 827,4. Сярэдні заробак у Віцебскай вобласці – 816,7 рубля, у Магілёўскай – 808,1 рубля.

Структура найбольш высокааплатных сфер эканамічнай дзейнасці не змянілася. У лідарах такія віды дзейнасці, як вытворчасць хімічных прадуктаў (1664,2 рубля), коксу і прадуктаў нафтаперапрацоўкі (1613), горназдабычная прамысловасць (1618,3), фінансавая і страхавая дзейнасць (1528,1), прафесійная, навуковая і тэхнічная дзейнасць (1254,3), вытворчасць асноўных фармацэўтычных прадуктаў і прэпаратаў (1145,5). У сферы вытворчасці камп'ютараў і перыферыйнага абсталявання сярэдняя заработная зарплата хоць і застаецца ў другім квартале гэтага года даволі высокай (1286), але ў параўнанні з першым кварталам знізілася (было 1483,9 рубля).

Менш за ўсё налічана ў чэрвені работнікам сферы сельскай гаспадаркі, а менавіта раслінаводства, жывёлагадоўлі, палявання і прадастаўлення адпаведных паслуг (664,3 рубля), рыбалоўства і рыбаводства (598,5), дзейнасці воднага транспарту (623), у сферы адміністрацыйных і дапаможных паслуг (647,2), паслуг па часовым пражыванні і харчаванні (662,5), адукацыі (649,5), работнікам па догляду з спецыялізаваных установах і ў сферы сацыяльных паслуг (541,9), творчай дзейнасці і адпачынку (566,2), работнікам бібліятэк, архіваў, музеяў і іншых устаноў культуры (536,6), цырульняў і салонаў прыгажосці (487,5 рубля).

ГОРА ЛЮДСКОЕ

## Сямейная трагедыя

*Учора падчас ДТЗ у Брэсцкай вобласці загінула жанчына і два яе маленькія сыны.*



Як паведамілі ў ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама, вадзіцель МАЗа пры выяздзе з другаснай дарогі на галоўную на трасе Брэст–Камянец–"Белавежская пушча" не саступіў мікрааўтобусу "Рэно", якім кіраваў 32-гадовы мужчына.

У выніку загінуў вадзіцель мікрааўтобуса, 31-гадовая жанчына і двое яе дзяцей (хлопчыкі 2-х і 5 гадоў). А вось вадзіцель грузавіка не пацярпеў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белорусские онкологи впервые установили пациенту титановое ребро

*Об этом рассказал заместитель директора по научной работе РНПЦ онкологии и медицинской радиологии им. Н.Н. Александрова* ***Сергей Красный.***



Как отметил Сергей Красный, операции на грудной клетке в центре выполняются уже давно. Но их количество было ограничено из-за функционального состояния пациента после проведения. Если удалить слишком много ребер, нарушается каркасность грудной клетки и в последующем пациент практически не может дышать.

До применения нынешней технологии предпринимались всевозможные попытки замещения этого дефекта различными материалами, но не всегда они приводили к хорошему результату. Операция по замещению ребра титановыми имплантами прошла довольно успешно. Если этот материал хорошо приживется, то в последующем можно будет выполнять более значительные резекции, в том числе замещать множество ребер. Это позволит значительно расширить возможности белорусских медиков.

На данный момент точно спрогнозировать, сколько пациентов нуждаются в такой технологии, сложно. Обычно это 2–3 человека в месяц. Но когда такие операции поставят на поток, их количество увеличится.

– *Если раньше мы отказывали кому-то в лечении по той причине, что не могли потом восстановить каркасность грудной клетки, теперь такая возможность появилась,* – цитирует belta.by Сергея Красного.

ЗОРКІ

## Б'ёрндален пракаціў на верталёце брата і пляменніка

*"Першы палёт на верталёце для пляменніка і брата ў Мінску", – падпісаў васьміразовы алімпійскі чэмпіён па біятлоне Уле-Эйнар Б'ёрндален фотаздымак на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку".*



У гэтыя дні ў Баравой пад Мінскам праходзіць чэмпіянат свету па верталётным спорце. Уле-Эйнар Б'ёрндален і яго жонка, 4-кратная алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава пабывалі на адкрыцці фэсту.

СКАНДАЛ

## Беларуска абвінаваціла арт-дырэктара аўстрыйскага фестывалю ў сексуальных дамаганнях

*Акрамя скрыпачкі Алены Даргель, адкрыты ліст падпісалі яшчэ чатыры жанчыны. Гэта скрыпачка Нінэль Лама з Албаніі, спявачкі сапрана Беціп Камп з Германіі і Мона Зом з Швейцарыі, а таксама меццасапрана Джулія Эш з Германіі.*

Па словах жанчын, на Цірольскім фестывалі ў Эрле дырыжор Густаў Кун без дазволу цалаваў, датыкаўся да іх, а таксама здзекаваўся і прылюдна зневажаў. Гэта доўжылася амаль 20 гадоў – з 1998-га па 2017 год.

«Межы асабістай годнасці і павагі пастаянна ігнараваліся і парушаліся», – заявілі яны. Дасталося і арганізатарам – на працягу многіх гадоў з іх боку не было ніякай рэакцыі на скаргі. Факты харасменту былі ўсім вядомы, сцвярджаюць музыканты, але ніякіх мер да гэтага часу не прынята.

Густаў Кун адхіляе ўсе абвінавачанні ў свой адрас. Яго адвакат заявіў, што мастацкі дырэктар фестывалю будзе абараняцца ў судзе ад несправядлівых прэтэнзій. Пракуратура Аўстрыі праводзіць расследаванне.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## На Бангалоры ў Мінску можна будзе мітынгаваць хоць кожны дзень – уводзіцца паведамляльны парадак правядзення акцый

У Беларусі ўводзіцца паведамляльны парадак правядзення масавых мерапрыемстваў. Гэта прадугледжана зменамі ў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

Праўда, мітынгаваць можна будзе толькі ў пэўных месцах, спіс якіх загадзя вызначаюць мясцовыя ўлады. У Мінску такім месцам традыцыйна лічыцца парк Дружбы народаў каля плошчы Бангалор.

Арганізатары мерапрыемства мусяць паведаміць уладам пра сваю акцыю за дзесяць дзён. А за пяць дзён атрымаюць адказ. Мітынгаваць можна толькі калі нехта ўжо сабраўся мітынгаваць у тым самым месцы ці калі «апавяшчэнне не адпавядае патрабаванням заканадаўства».

Арганізатарам трэба будзе яшчэ заключаць дамовы з медыкамі, міліцыяй і прыбіральшчыкамі.



ЭКСКЛЮЗИВ

## Александр АРХИПОВ:

# «Теперь я свободный человек...»

*Бывший заместитель генпрокурора Александр Архипов, осужденный несколько лет назад и отправленный из-за решетки поднимать отстающее сельхозпроизводство, с 1 июня больше не работает в деревне Заречье Смолевичского района Минской области и не возглавляет РСУП «Петровичи».*

*Он уволился.*

*Все случилось неожиданно и без долгих прощаний.*

*«Народная Воля» разыскала Архипова и поинтересовалась подробностями его ухода.*



**– Александр Михайлович, расскажите, как ваши дела? Что нового в жизни?**

– В принципе, все нормально.

**– Уже известно, что со своим прежним местом работы вы распрощались. По собственному желанию заявление написали?**

– Мне просто сказали, что я свободен, вот и все.

**– Уволили? Или как это понимать?**

– Расстались по соглашению сторон.

Поступила соответствующая команда из Администрации президента и все на этом. Вот мы и разбежались с «Петровичами». Теперь я им ничем не обязан.

**– Знаю, что вы с душой относились к своей новой работе, а не просто отбывали срок, как в дисбате. И даже на курсы специальные ходили, чтобы больше понимать в сельскохозяйственной теме…**

– Любую работу надо знать. И на одном языке разговаривать с людьми. Да и знания лишними никогда не бывают, в жизни все пригодится!

Я не воспринимал свою работу в Петровичах как наказание. К любому делу, особенно если делаешь его искренне, с полной отдачей, прикипаешь. Как бы там ни было, это была не только моя работа, но и моя жизнь. Честно скажу: мне нравилось.

**– У вас было убитое хозяйство. Огромнейшие долги, суды с кредиторами, нехватка квалифицированных кадров. В 2015 году РСУП «Петровичи» входило в список предприятий-должников по зарплате… Вам удалось что-то сдвинуть с мертвой точки?**

– Кое-что удалось изменить. Хорошее хозяйство стало.

**– Значит, горды собой?**

– Когда видишь позитивный результат своего труда, всегда получаешь удовлетворение. Это нормально. У нас была динамика. Зарплаты выплачивали, налоги платили. А объять необъятное невозможно.

**– Не жаль было уходить из «Петровичей»?**

– Если честно, меня никто не спрашивал. Была команда, что 31 мая я должен быть уже свободным человеком. Все решается очень быстро и четко.

**– А как вас провожали? Что коллектив на прощание сказал? Может, всплакнул кто из-за вашего ухода…**

– Да не принято там проводы устраивать. В течение дня все решилось.

**– А где сейчас трудитесь?**

– Пока нигде. Но, конечно, буду работать. У меня нет золотого запаса, чтобы лежать на печи.

**– Сами ищете работу или ждете, когда предложат какую-то должность?**

– Ну а чего ждать? Надо самому искать… Ждать у моря погоды не буду.

**– Какая-то грусть в вашем голосе звучит…**

– Да нет, все хорошо! Как бы ни складывалась ситуация – все это жизненные уроки, и если сделать правильные выводы, то они в конечном итоге пойдут только на пользу. Так что никакой проблемы нет. Все хорошо у меня!

**– Вижу, жизнь не только закалила вас, но и сделала оптимистом. Кстати, а какую работу вам хотелось бы получить?**

– Нет плохой работы. Как в детстве учили, помните? Любая работа – престижная.

**– Ну не в сельское хозяйство же вернетесь!**

– Если в этом будет необходимость – вернусь. Тем более опыт у меня уже есть – не вижу проблемы.

**– А сколько вы в Петровичах оттрубили?**

– Больше чем два года. Если быть точным – с января 2016-го по май 2018. Два года и четыре месяца.

Я честно отработал. И мне не стыдно в глаза смотреть, в том числе и тем людям, которые там остались.

**– Кого на ваше место прислали? Нового “штрафника”?**

– Пока один из моих бывших заместителей исполняет обязанности руководителя хозяйства. Как дальше будет – не знаю.

**– Вам остаться в «Петровичах» нельзя было? Или сами не хотели?**

– А меня никто и не спрашивал. Председатель райисполкома сказал: мы должны расторгнуть с вами контракт. Ну нужно, так нужно…

В принципе, и по приговору суда у меня к этому времени уже закончился срок наказания. И по любому я был бы уже дома. Но, повторюсь, я всех деталей не знаю. Со мной эти вещи не обсуждали. И меня никто не спрашивал, хочу я остаться или не хочу. Сказали, что решение принято, и все на этом.

**– Не переживаете, что сейчас трудно будет найти новую работу?**

– Без дела сидеть не буду. Руки есть, голова на плечах…

**– Может, были уже какие-то предложения о трудоустройстве? От друзей, например?**

– Можно я не буду отвечать на этот вопрос?

**– Без проблем. А со здоровьем у вас как?**

– Все хорошо, слава Богу.

**– Александр Михайлович, желаю, чтобы все в вашей жизни складывалось благополучно. Успехов во всем!**

– Спасибо! Все будет хорошо, я в этом уверен. Самое главное – семья, дети, близкие, чтобы они были здоровы. А все остальное – приложится! И работа, которая будет приносить удовольствие, тоже найдется.

А вообще, все, что ни делается в жизни, – все к лучшему! Как говорится, будем живы – не помрем!

ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

## За что сидел?

В одном из своих выступлений А.Лукашенко рассказал, что Архипов, будучи в должности заместителя генпрокурора, попытался не дать ход уголовному делу, связанному с гибелью человека в ДТП. По словам президента, пьяный сын бизнесмена управлял мотоциклом и попал в аварию, его пассажирка погибла: «*Архипов помог его отмазать за золотой слиток и бутылку коньяка*».

В 2014 году Александр Архипов был осужден Верховным судом на шесть лет лишения свободы за получение взятки и превышение служебных полномочий.

26 января 2016 года был назначен директором сельскохозяйственного предприятия «Петровичи».

По одному уголовному делу вместе с Архиповым проходил и экс-председатель Палаты представителей **Владимир Коноплев**. Но колонии ему все-таки удалось избежать – Коноплеву за «недонесение о преступлении» присудили штраф в 900 базовых величин (по тем временам – около 13 тысяч долларов).

Суд по этому делу был закрытым.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Александр КОРОЛЬЧУК:

## «С Архиповым было отлично работать»

*Нынешний исполняющий обязанности директора РСУП «Петровичи» Александр Корольчук, как и Александр Архипов, в будущее смотрит с оптимизмом.*

«Как чувствую себя в роли руководителя? Я давно работаю в сельском хозяйстве на руководящих должностях, ничего нового нет, – *говорит Александр Иванович.* – Надо работать, да и все. Вместе с Александром Михайловичем Архиповым я руководил «Петровичами» около семи месяцев. Работать с ним было отлично.

В каком состоянии сегодня наше хозяйство? В нормальном. Но, безусловно, надо работать, чтобы было еще лучше».

Напомним, что РСУП «Петровичи» специализируется на животноводстве мясомолочного направления, а также выращивает пшеницу, кукурузу, ячмень, тритикале, рожь, гречиху, овес, картофель.

Есть в «Петровичах» несколько ферм: две молочнотоварные и две по откорму крупного рогатого скота; четыре зерносушильных комплекса, три зернохранилища и одно хранилище для овощей.

Еще хозяйство сдает в аренду спецтехнику.

ШТРИХ К ТЕМЕ

## Дадут ли эфир бывшим высокопоставленным коррупционерам?

Александр Архипов – далеко не единственный чиновник, которого освободили из тюрьмы раньше срока и отправили поднимать убыточное хозяйство.

Самым первым выпускником «высокопоставленного дисбата» был экс-глава концерна «Белнефтехим» **Александр Боровский** *(на фото)*. Правда, его сослали не в отстающий колхоз, а на МАЗ, который тогда как раз переживал не самые лучшие времена.




27 марта 2008 года Верховный суд приговорил Боровского к пяти годам лишения свободы без права три года занимать руководящие должности в государственных организациях и предприятиях. Боровского признали виновным в злоупотреблении служебными полномочиями. Экс-глава «Белнефтехима» написал прошение о помиловании и через полтора года после ареста оказался на воле, а еще через год – в кресле гендиректора МАЗа. Работать Боровскому нравилось, он охотно общался с журналистами, и даже получил орден Почета. Александр Васильевич Боровский внезапно ушел с завода в 2012 году – сообщалось, что у него закончился контракт. Причем завершение контракта удивительным образом совпало с окончанием срока лишения свободы, назначенного Верховным судом.

А.Лукашенко работу Боровского на МАЗе оценил положительно: «*Вы знаете, я часто так в шутку говорю, что всех членов правительства через тюрьму провести, чтобы так работали*».

Кстати, если проследить судьбу других чиновников, которых выпустили из тюрьмы досрочно и отправили поднимать сельское хозяйство, то и у них завершение контрактов, как правило, совпадает с окончанием срока приговора.

Пару лет назад глава государства на одном из публичных мероприятий заявил о своем намерении заслушать отчеты о том, как сработали те коррупционеры, которых освободили из тюрьмы и отправили поднимать отстающие колхозы. Правда, по информации «Народной Воли», это отчетное совещание пока так и не состоялось… А зря! Могло бы получиться отличное рейтинговое шоу, особенно если бы транслировалось в прямом эфире.

**Марина КОКТЫШ.**

КУЛУАРЫ

## Сідорскі і Карашкоў вяртаюцца ў Мінск

*Два члены калегіі (міністры) Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Сідорскі і Валерый Карашкоў пакідаюць свае пасады. Вядома, што Савет ЕЭК ужо ўхваліў адпаведнае кадравае рашэнне.*

Мяркуецца, што ў найбліжэйшы час гэтыя кадравыя пытанні будуць разгледжаны на пасяджэннях Еўразійскага міжурадавага савета і Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета.

Калі верыць крыніцам, набліжаных да Сідорскага і Карашкова, якія былі ў доўгай маскоўскай камандзіроўцы, абодва напісалі заявы па ўласным жаданні.

На месца Сяргея Сідорскага ў ЕЭК сватаюць памочніка прэзідэнта Беларусі па Віцебскай вобласці **Аляксандра Субоціна,** а замест **Валерыя Карашкова** – пакуль яшчэ старшыню Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі **Віктара Назаранку.**

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Юрый Авяр’янаў зноў на волі

*Бізнесмена вызвалілі з-за кратаў у Германіі некалькі месяцаў таму.*

*Аднак пытанне з ягонай экстрадыцыяй у Беларусь дагэтуль не вырашана.*

Пра тое, што ў дачыненні да бізнесмена Юрыя Авяр’янава расследуецца крымінальная справа, у верасні 2017 года паведаміў Следчы камітэт Беларусі. Справа звязана з ухіленнем ад выплаты падаткаў суб’ектамі гаспадарання. Па падазрэнні ў здзяйсненні супрацьпраўных дзеянняў затрымалі адразу шэсць чалавек, у тым ліку дырэктара ЗАТ «Гандлёвы свет – “Кальцо”» і ТАА «Парк забаў “Дрымлэнд”», кіраўніка Madison Royal Club і іншых. Юрыя Авяр’янава сярод затрыманых не было. Ён паспеў з’ехаць за мяжу, таму яго вельмі хутка аб’явілі ў міжнародны вышук. Пазней стала вядома, што маёмасць, якая належыць Авяр’янаву, выставілі на таргі.

Як паведамляла “Народная Воля”, 18 студзеня гэтага года Юрыя Авяр’янава затрымалі ў Германіі, і ўжо 21 студзеня суд аднаго з раёнаў нямецкай сталіцы прыняў рашэнне выдаць бізнесмена беларускаму боку. Але ў нямецкім следчым ізалятары Авяр’янаў правёў няшмат часу. Пры дапамозе двух адвакатаў ён абскардзіў судовае рашэнне. І апынуўся на волі.



*“20 лютага 2018 года Юрый Робертавіч Авяр’янаў быў вызвалены з пенітэнцыярнай установы,* – паведаміў “Народнай Волі” афіцыйны прадстаўнік Генпракуратуры Беларусі **Дзмітрый Брылёў**. – *Але рашэнне па сутнасці – выдаць яго ці не выдаць, германскі бок так і не прыняў, і запрасіў у Беларусі дадатковыя звесткі. Прычым у другі раз. 11 ліпеня мы атрымалі ўжо другі запыт дадатковых звестак, якія перанакіравалі ў Следчы камітэт, у вытворчасці якога знаходзіцца крымінальная справа.*

*Следчы, які вядзе справу, падрыхтуе ўсе неабходныя матэрыялы, пракурор іх вывучыць і накіруе нямецкаму боку. Гэтыя матэрыялы патрэбны германскаму суду для прыняцця рашэння аб дапушчальнасці альбо недапушчальнасці выдачы Юрыя Авяр’янава ў Рэспубліку Беларусь для прыцягнення да крымінальнай адказнасці”.*

Вядома, што працэс экстрадыцыі не вельмі хуткі.

*«Справа ў тым, што выдача магчыма толькі тады, калі дзеянні, у якіх абвінавачваюць Юрыя Авяр’янава, з’яўляюцца злачынствамі як па законах Беларусі, так і па законах Германіі, – тлумачыць Зміцер Брылёў. – І ў Германіі ўважліва вывучаюць, ці маюцца ў дзеяннях Авяр’янава прыкметы злачынства. Таму яны і запатрабавалі дадатковыя звесткі аб справе. Вось калі б усе свае ўчынкі Авяр’янаў здзейсніў на тэрыторыі Германіі – гэта было б злачынства ці не? Калі гэта будзе прызнана злачынствам, то будзе рэалізаваны двайны прынцып каральнасці дзеяння. І тады ўжо можна прымаць рашэнне аб дапушчальнасці выдачы. Можа, яшчэ нейкія моманты германскі бок захоча высветліць – гэта цалкам нармальная практыка.*

*Экстрадыцыя – заўсёды не хуткі працэс. Можа прайсці і год, і нават больш. Таму, скажам так, экстрадыцыйная вытворчасць па справе Юрыя Авяр’янава знаходзіцца ў актыўнай фазе».*

*У якой краіне цяпер жыве Юрый Авяр’янаў? Ён мае права знаходзіцца толькі на тэрыторыі Германіі ці можа свабодна перасоўвацца па тэрыторыі ўсяго Еўрасаюза?*

*“Гэта ўжо германскі бок прымае рашэнне, як забяспечыць правільны ход экстрадыцыйнага працэсу,* – каментуе Дзмітрый Брылёў. – *Магчыма, да Авяр’янава ўжылі нейкія праваабмежавальныя меры. Гэта можа быць падпіска аб нявыездзе і належных паводзінах, а можа, ён проста падпісаў абавязацельства аб яўцы ў паліцыю па першым патрабаванні. Мы дакладна не ведаем. Таму што гэта выключная кампетэнцыя германскага боку”.*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

**На здымку: Юрый Авяр’янаў знайшоў ключ, які дапамог адчыніць дзверы нямецкай камеры.**

РЕЗОНАНС

# Не во всем прав Федута…

Читая вот уже много лет «Народную Волю», заметил: в последнее время здорово расписался Александр Федута. С особым сарказмом он подмечает негатив в политике действующих властей. Но, на мой взгляд, иногда в его размышлениях присутствует и некое верхоглядство. Не всегда он глубоко вникает в суть проблемы. Чувствуется какая-то оторванность от жизни.

В колонке «Дело Василия Леонова» (номер газеты за 24 июля) он, в принципе, верно зацепил власть за то, что в свое время была погублена идея таких опытнейших аграрников, как Василий Леонов и Василий Старовойтов. Не в тюрьму их нужно было прятать, а дать зеленую дорогу тем ценным предложениям, с которыми они открыто выступали.

Поддерживая в этом плане позицию Александра Федуты, я в то же время считаю, что он перегибает палку, когда категорически утверждает: «Значит, добили таки деревню до ручки…». Налицо дилетантство автора! Ситуация не совсем такая, какой ее представляет А.Федута. Не знает он, что судьбу сельского хозяйства в Беларуси уже давно не определяют отстающие, нерентабельные предприятия. Успех отрасли – за такими крупными кооперативами, акционерными обществами, агрокомбинатами, как «Остромечево», «Снов», «Вертелишки», «Заря», «Беловежский», «Ждановичский»… Результатам этих и многих других хозяйств могут позавидовать американские и европейские фермеры. Урожайность зерновых в 70–80, а то и в 100 центнеров – это разве не громаднейшее достижение! А годовые надои молока от коровы в 7–8 тысяч литров – прекраснейшие реалии.

Да, я понимаю, где-то действительно «добили деревню до ручки». Но, уважаемый Федута, нельзя смотреть на село, его проблемы обобщенно. Для многих жителей Бреста остается мечтой переезд на постоянное проживание и трудоустройство в том же «Остромечево». А чем хуже условия для жизни, скажем, в «Снове»! Да и во многих-многих других хозяйствах. Я лично не считаю, что идея агрогородков не оправдала себя. Оправдала! Дай Бог, чтобы эта тенденция имела продолжение. И не надо оплакивать те деревушки, в которых остались считанные жители.

Одним словом, рисовать только черными красками политику властей в отношении села я бы не стал. Не советую это делать и уважаемому Александру Федуте.

**Анатолий Петрович КЛИНЦЕВИЧ, пенсионер, агроном по образованию.**
*Минск.*

РОЗДУМ

# «Чорны лебедзь» стукае ў акно

У нумары газеты ад 17 ліпеня была надрукавана нататка В.Карбалевіча "Апазіцыя ў зачараваным коле". Прачытаў і здзівіўся, няўжо аўтар В.Карбалевіч? Напісана моцна, добра, цікава, што яму і ўласціва.

Апазіцыю я ведаю з дзевяностых гадоў і дэ-факта яна знікла пасля 1996 года. Хто пайшоў служыць уладзе, хтосьці з'ехаў, многія "схаваліся ў бульбу", а некаторыя зніклі ў прамым сэнсе гэтага слова. Нельга апазіцыяй лічыць партыі "адабрамса" кшталту Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Гаварыць пра апазіцыйнасць руху "Гавары праўду" таксама спрэчна.

Вось 11 ліпеня на прыём грамадзян старшынёй Бабруйскага гарвыканкама А.Студневым прыехалі лідары руху А.Дзмітрыеў і Т.Караткевіч. Сярод іншага было зададзена пытанне наконт лесу інсталяцый на плошчы каля Палаца мастацтва. Так, магчыма, праблема і важная, але для адзінак.

А што было зададзена сярод іншага? Мяркую, не пра стан эканомікі. Тут хваліцца няма чым: страты горадаўтваральнага прадпрыемства "Белшына" даходзяць аж да 30 млн рублёў.

Стратнымі з'яўляюцца каля 30 прадпрыемстваў, але іх "паказчыкі" больш сціплыя.

Сярэдні заробак быццам неблагі. Але хацелася б даведацца – колькі атрымліваюць рабочыя (менавіта рабочыя) "Беларусьгуматэхнікі, "Славянкі", "Фандока".

Беспрцоўных на 1.04.2018 года было зарэгістравана 726 чалавек, а наяўнасць вакансій 926.

Ідылія! Да ведама кіраўніка горада і лідараў руху "Гавары праўду", – "пісьмы шчасця" атрымалі каля 10 тысяч так званых дармаедаў.

Мне здаецца, што на сустрэчах з чыноўнікамі А.Дзмітрыеў і Т.Караткевіч абмяркоўваюць пустазвонныя пытанні.

Але калі чалавек крытыкуе прэзідэнта альбо крытыкай рэжа чынавенства, то ён "отморозок". Вось яскравыя прыклады адносін да людзей процілеглых думак. Пісьменнік №1 М.Чаргінец нёс некалі абражальную хлусню на пісьменніка В.Якавенку. І ўсё сыходзіла. На вялікі жаль, В.Якавенка ўжо не зможа адказаць на абразы.

Таму ж У.Някляеву на 70-гадовы юбілей можна было зладзіць такі канцэрт, што пазайздросціць любы фестываль. На яго словы напісана шмат песень! Але ж ён "отморозок".

На такі ж юбілей С.Алексіевіч не атрымала віншавання ад Улады. Відаць, забылі, бо, мабыць, у Беларусі сотні нобелеўскіх лаўрэатаў. Не, не забылі, што яна "отморозок". Затое зорак расійскай эстрады "састарэлай велічыні" (паводле слоў А.Фядуты), прэзідэнт віншаваць не забывае.

Але ж улады прыслухоўваюцца хай сабе і да крызіснай апазіцыі. Вось "отморозки" прыводзяць такі факт. Згодна са статыстыкай у Беларусі 7 млн (лічбы ўмоўныя, але даюць зразумець сутнасць) працаздольнага насельніцтва. Працуючых і тых, хто на ўліку беспрацоўных, 6,5 млн чалавек. Дзе яшчэ 500 тысяч?

Вось так нарадзіўся закон, празваны ў народзе "Аб дармаедах".

Калісьці У.Някляеў напісаў артыкул пад назвай "Неяк будзе". Улады заклалі гэты прынцып у аснову кіравання эканомікай.

Няўжо змен не будзе? Прыгадаем свята стагоддзя БНР. Пасля канцэрта людзей затрымлівалі, але пратаколаў не складалі. Скажаце, што бязглуздзіца. Не, тут вельмі вялікі сэнс. Страх для ўлады, калі людзі страцяць страх. Можа, каламбур і няўдалы, але гэта галоўны ўнутраны чыннік змен у грамадстве. Пакуль рэпрэсіўныя і ідэалагічныя дзеянні ўлад маюць поспех. І такое будзе доўжыцца не адно пакаленне.

Нельга выключаць і вонкавых абставін, як піша В.Карбалевіч, "чорны лебедзь". Ужо ў Італіі загаварылі пра прызнананне Крыма расійскім. ЗША, Еўрасаюз, Расія падзеляць сферы ўплыву. Еўропе не патрэбны карупцыйныя Гімалаі Украіны і савецкая шызафрэнія Беларусі. Будзем у абдымках Расіі, галодныя, п'яныя, выконваць інтэрнацыянальны доўг у Сірыі. Затое шчаслівыя, што жывём у магутнай імперыі. Нездарма А.Лукашэнка нядаўна сказаў, што можам апынуцца ў складзе другой дзяржавы.

**Алмік ЧМЫХВЕР (псеўданім).**
**г.Бабруйск.**

ДЫСКУСІЯ

# Калі дзяржава гарантуе забойцам права на жыццё, то гэтым самым яна завуаліравана пазбаўляе такога права астатніх грамадзян

Ужо доўгі час у інфармацыйнай прасторы чутно шмат разважанняў аб мэтазгоднасці смяротных пакаранняў у Беларусі. Яны выносяцца нашымі судамі за асабліва цяжкія наўмысныя злачынствы, у выніку якіх гінуць сумленныя грамадзяне.

У тых крыніцах інфармацыі, якімі я карыстаюся, слова даецца чамусьці выключна прыхільнікам адмены смяротнай кары. Дзіўны падыход, бо на рэферэндуме аб яго мэтазгоднасці пераважная большасць грамадзян краіны выказалася за яе захаванне. Дык ці можа з такой фільтрацыяй атрымацца плённая дыскусія і пошук ісціны?

Носьбітамі "гуманізму" выступаюць і вядомыя праваабаронцы, і апазіцыйныя палітыкі, і прадстаўнікі духавенства, уплывовыя заходнія арганізацыі і іх кіраўнікі. Вось ужо і сам Генеральны сакратар Савета Еўропы спадар Турб'ён Ягланд дыпламатычна звяртаецца да нашага кіраўніцтва: *"Мы зноў заклікаем беларускія ўлады ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне ў якасці першага кроку да яго адмены… Смерць не з'яўляецца справядлівасцю"*. А крытыка прыхільнікаў захавання смяротнага пакарання з боку сваіх апанентаў (не замежных) здараецца вельмі жорсткай. Так, адзін малады чалавек лічыць іх "крыважэрнымі", а іншы з гэтай нагоды прыйшоў да высновы, што "белорусское государство абсолютно бесчеловечно", што яно кіруецца "звериными инстинктами".




Але вернемся да звароту высокага заходняга кіраўніка. Можа, Генеральны сакратар Савета Еўропы не ведае, што беларускія ўлады выконваюць волю свайго народа? А можа, ён мяркуе, што самаахвярнай літасцю можна расчуліць і перавыхаваць патэнцыяльных злачынцаў?

Простаму беларусу не зразумець, чаму так востра палітызуецца гэтае пытанне. Я не палітык і не прававед, а сярэднестатыстычны грамадзянін. І таму ў сваіх разважаннях зыходжу з наступнай аксіёмы: калі дзяржава (грамадства) гарантуе забойцам права на жыццё, то гэтым самым яна завуаліравана пазбаўляе такога права астатніх грамадзян. Бо развязвае рукі патэнцыяльным злачынцам, а праваахоўнікаў пазбаўляе галоўнага стрымліваючага ўздзеяння на іх. "Ну як жа? – запярэчаць мне. – А пажыццёвае зняволенне?" Не смяшыце курэй, паважаныя апаненты. Для такіх істот, як галоўныя героі нашай дыскусіі, пажыццёвае зняволенне – пажаданы камфорт. Яно ў большай ступені з'яўляецца пакараннем для грамадзян сваёй краіны, якія пажыццёва вымушаны ўтрымліваць забойцу і яго абслугу. А для пацярпелых (блізкіх да ахвяр людзей) такі прысуд выглядае здзеклівым. І, наогул, калі шырока распаўсюдзіць такую селекцыю з абавязковым захаваннем генафонду чалавекападобных істот і практычна дазволенаму вынішчэнню людзей, то наша "планета людзей" праз нейкі час знікне назаўжды. Паводле прыведзенай аксіёмы ўлады і павінны вызначацца, чый бок ім належыць заняць.

Спынімся коратка на асноўных аргументах прыхільнікаў адмены смяротнага пакарання.

1.У "Дэкларацыі правоў…" запісана: кожны чалавек мае права на жыццё. Лічу, што наяўнасць у заканадаўстве нашай краіны смяротнага пакарання не адмяняе такога права і не супярэчыць "Дэкларацыі". Па-першае, гэта сам злачынец не прызнае такога права за іншымі і, ведаючы, што яго чакае вышэйшая кара, не стрымліваецца ад жудаснага намеру, фактычна ідзе на самазабойства, суіцыд. Я тут не бачу парушэння права на жыццё. Па-другое, у "Дэкларацыі…" размова ідзе аб правах чалавека, які вызначаецца не толькі знешнасцю, а галоўным чынам зместам. А што ў натуры жудаснага злачынцы чалавечнага?

2.Смяротны прысуд нельга прыводзіць у выкананне (а лепш наогул скасаваць такі артыкул у заканадаўстве), бо можа загінуць невіноўны чалавек з-за памылкі следства. Па-першае, лічу, што перастрахоўку нельга рабіць нормай судовага заканадаўства, а трэба павысіць якасць следства. Асабліва пры раскрыцці цяжкіх злачынстваў. Па-другое, верагоднасць памылкі следства не большая, чым паўторнага цяжкага злачынства пажыццёва зняволеным ужо за кратамі альбо пасля ўцёкаў з турмы.

3.Наяўнасць у заканадаўстве смяротнага пакарання не ўплывае на ўзровень жахлівай злачыннасці. У гэта цяжка паверыць, а доказаў няма. Затое са сродкаў масавай інфармацыі вядома, што ўсе цяжкія злачынствы старанна маскіруюцца і ў большасці цяжка раскрываюцца. Чаго ж баяцца злачынцы? Адказ адназначны – толькі вышэйшай меры пакарання.

4.У большасці краін смяротная кара адменена. Значыць, нам можна ўжо асабліва і не задумвацца аб яе мэтазгоднасці. Там жа, на Захадзе, вышэйшы ўзровень цывілізацыі, людзі ведаюць, як правільна жыць. А калі ўсё ж задумацца і прыглядзецца, то не ўсё ў свеце так адназначна. І ўзровень злачыннасці ў краінах розны, і менталітэт, традыцыі народаў не аднолькавыя. Тады і сродкі барацьбы са злачыннасцю могуць адрозніваცца.

Беларусам хочацца жыць спакойна; а для гэтага патрэбны павышаны ўзровень бяспекі і, значыць, больш эфектыўныя сродкі яго дасягнення. А "Дэкларацыя правоў…" такую розніцу насельнікаў планеты не ўлічвае. Таму і нельга лічыць яе ўсеагульнай і патрабаваць неадкладнага выканання яе пастулатаў усімі краінамі.

5.Смяротнае пакаранне трэба адмяніць, бо гэта ж помста – дрэнная рыса, уласцівая адсталаму, прымітыўнаму чалавеку. Гэта сапраўды дрэнная якасць. Толькі ў рэзанансных злачынствах такое пачуццё апаноўвае на кароткі час самых блізкіх да ахвяры людзей. І іх можна зразумець і дараваць. Усе ж астатнія грамадзяне ўспрымаюць смяротнае пакаранне як сродак абароны, павышэння ўласнай бяспекі. Альтэрнатывы яму ў нашай краіне пакуль няма.

Хто са мной усё ж не згодны, давайце звернемся да мудрых прынцыпаў жывой божай прыроды, часткай якой з'яўляемся і мы самі. І выжываем, дзякуючы гэтым прынцыпам. Пэўна, ніхто не стане аспрэчваць той факт, што дасканалае грамадства, дзяржава функцыянуюць як жывы арганізм, у якім каардынацыя дзеянняў даведзена да аўтаматызму. Для прыкладу возьмем арганізм чалавека. У ім мірна суіснуюць сотні карысных мікраарганізмаў. Але як толькі ў яго пранікае шкодная нечысць – вірусы – яна бязлітасна знішчаецца і выводзіцца ў каналізацыю. А не здольны на такія рашучыя дзеянні арганізм сам чахне і гіне. Такое захворванне ў медыцыне назвалі сіндромам імунадэфіцыту. Аналогія з грамадствам відавочная. Так ці патрэбны ён нашай краіне?

Мае віртуальныя апаненты, пэўна, думаюць, што я безаглядна, без варыянтаў учапіўся за смяротнае пакаранне. Памыляецеся. Наадварот, я за яго хутчэйшую адмену. І падтрымліваю лозунг Аляксандра Бяляцкага: "Смяротная кара – гэта мінулае". Толькі з дапаўненнем: "…разам з жахлівымі злачынствамі". Зазначу, што ў свеце ёсць краіна (а можа, і не адна), у межах якой пытанне аб смяротным пакаранні вырашаецца дыферэнцыравана ў залежнасці ад узроўню злачыннасці і пажаданняў грамадзян канкрэтнай мясцовасці, – гэта ЗША. Таму ў адных штатах смяротнае пакаранне адменена, у другіх – захоўваецца.

Прапаную нашым уладам і яе апанентам у пытанні смяротнага пакарання кампраміснае рашэнне: **праваахоўным органам з улікам прапаноў грамадзян і зарубежнага досведу ўстанавіць цярпімы ўзровень (парог) цяжкай злачыннасці для краіны. Пасля яго дасягнення ўвесці мараторый на вынясенне смяротнага пакарання.**

Паводле такога рашэння ўсе зацікаўленыя асобы, ведамствы, зарубежныя арганізацыі атрымліваюць магчымасць канкрэтнымі справамі, прапановамі наблізіць адмену смяротнага пакарання ў Беларусі.

**Сяргей РУСАН, дацэнт Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

МАЛАЯ РАДЗІМА

# Як гулялі Краі…

Адзін мудры чалавек сказаў: "Калі ёсць сцяжынка да раю – гэта тая, што вядзе дамоў". Дарога дадому, на малую Радзіму – гэта дарога ў рай.

На свеце ёсць такія куткі, якія прывароžваюць назаўсёды. Таямнічы і велічны лес, прамяністая і празрыстая рака Пціч, свежае звонкае паветра, прастор навокал, добразычлівыя людзі – усё гэта можна сказаць і пра вёску Краі, што знаходзіцца на самым краі Дараганаўскага сельскага савета ў Асіповіцкім раёне.

У XVI стагоддзі вёска Краі ўжо была на картах землеўладанняў Радзівілаў. Пасля Дамініка Радзівіла яна перайшла ва ўладанне князя Л.П.Вітгенштэйна, знаходзілася на краі яго зямель і ўваходзіла ў склад маёнтка Каўгары. У 90-я гады XIX стагоддзя землі, у склад якіх уваходзіла вёска, набылі ў складчыну браты Осіп і Іван і Мацвей Якаўлевіч Дарагань.





Нялёгкая доля была ў крайчукоў у XX стагоддзі. Так, у гады калектывізацыі былі раскулачаны заможныя сяляне. І ўспаміны пра мінулую вайну балючыя. Не дачакаліся пасля вайны 54 краяўскія сям'і сваіх родных: яны загінулі, прапалі без вестак. 11 чалавек былі адпраўлены ў Германію.

Зараз вёска Краі з кожным годам старэе. Школу зачынілі, а пасля будынак раскідалі, як і будынкі клуба, медыцынскага пункта і бібліятэкі. Дзеці, а іх няшмат, вучацца ў ДУА "Дараганаўскі ВПК д/сад СШ". У Краях, як і ва ўсіх цяперашніх вёсках, бяда адна: з цягам часу жыхары ўсё часцей з'язджаюць з родных хат у іншыя месцы. У вёсцы пастаянна жыве менш за 80 чалавек.

Але сэрца чалавека заўжды рвецца да дому, да свайго дзяцінства, да сваіх вытокаў. Вось і крайчукі, тыя, хто тут вырас, хто жыў, вяртаюцца ў дарагія мясціны. А самыя шчырыя і адданыя, такія, як Анатоль Мікалаевіч Сударыкаў (Муха), ладзяць тут свята і ўжо не адзін год, каб помнілі, што ёсць родная вёска, каб людзі, дзеці і ўнукі шанавалі памяць аб сваіх вытоках, каб вёска не памірала…

Так і сёлета 14 ліпеня прайшло свята вёскі Краі. Урачысты канцэрт быў падрыхтаваны сіламі калектыву педагогаў ДУА "Аздараўленчы лагер "Пціч" в.Крынка" на чале з дырэктарам **Жаннай Уладзіміраўнай Пінчук**, якая адначасова з`яўляецца намеснікам старшыні Дараганаўскага сельскага савета. З імправізаванай сцэны павіншавалі і падзякавалі старэйшым жыхарам вёскі, кожны мог сказаць сваё слова сабраўшымся.

На свята прыбылі шаноўныя госці – іераманах Максім – настаяцель Панцялеймонаўскага храма в.Дараганава, са Стакгольма прыехаў нашчадак апошняга ўладальніка мясцовых зямель, праpraўнук пана Дарагана – **Андрэй Дараган** у суправаджэнні загадчыцы Асіповіцкага краязнаўчага музея **Антаніны Францаўны Сцяпанавай**. У гэты прыезд Андрэй Дараган прывёз у асіповіцкі краязнаўчы музей больш за 100 рэчаў сваёй сям'і, памяць аб якой беражэцца і шануецца ў нашых мясцінах.

Адна з самых старэйшых і паважаных жыхарак вёскі **Анна Архіпаўна Міхадзюк** ад імя ўсіх падзякавала Андрэю за прыезд і перадала кошык яблык і вядзёрка чарніц, разам са смачным зефірам "Чырвонага харчавіка", як сувязь часоў і людзей – калісьці паны Дараганы пастаўлялі на бабруйскую мармеладную фабрыку яблыкі і ягады для знакамітых цукерак.

Госці свята адправіліся частавацца ухой, якую бясплатна налівалі ўсім жадаючым і прысмакамі, прывезенымі Асіповіцкім камбінатам грамадскага харчавання, а канцэрт прадоўжылі яшчэ адны госці і сябры крайчукоў, артысты Дома культуры пасёлка Елізава. Народны ансамбль народнай песні "Вечарынка" пад кіраўніцтвам Джэмы Рабавай, Анатоль Пятраеў, Анастасія Мардзвінка выконвалі цудоўныя песні аб Радзіме, сяброўстве, каханні. Удзельнікі свята, не доўга думаючы, пусціліся ў пляс.

Свята прайшло шчыра і цікава для ўсіх Тут сустрэліся і аднакласнікі, і старыя знаёмыя, якія не бачыліся шмат гадоу, гулялі старыя з праўнукамі, кучкавалася моладзь з суседніх вёсак і прыехаўшая на вакацыі. Усім было цікава, было што пабачыць, было каму і сябе паказаць.

**А.АЎДЗЕЙЧЫК, В.КРЫНІНА.**
**Фото В.КРЫНІНА.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Як цэнзуравалі Караткевіча

Пяро Уладзіміра Караткевіча, як жазло фрыгійскага цара Мідаса, валодала чарадзейнай уласцівасцю ператвараць усё напісанае ў мастацкія скарбы. І скарбы тыя пісьменнік шчодра дарыў-прысвячаў сябрам і блізкім: аповесць "Ладдзю Роспачы" – аднадумцу-паплечніку Рыгору Барадуліну, раман "Нельга забыць" – аднакурсніку Гераніму Стулпану, "Чорны замак Альшанскі" – жонцы Валянціне Браніславаўне…

Прысвячэнні прырастаюць да твораў, становяцца іх часткай. Скажам, казку на ўсе ўзросты Антуана дэ Сент-Экзюперы "Маленькі прынц" немагчыма ўявіць без кранальнага звароткa "Ляону Верту, калі ён быў маленькім". Шэдэўральны "Вянок" Максіма Багдановіча быў ускладзены на далёкую (у Кіеве) магілу таленавітага публіцыста Сяргея Палуяна, які ў дзевятнаццацігадовым узросце самахоць развітаўся з жыццём. А красамоўнае прысвячэнне знакамітай паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" каралеве Боне Сфорца ўспрымаецца сапраўды як пачатак твора, які тлумачыць прычыны з'яўлення "Carmen de bisontis" на свет.

Аднойчы славуты кінааператар Анатоль Забалоцкі, які дзесяць гадоў адпрацаваў на "Беларусьфільме", паказаў мне аўтограф караткевічаўскай "Балады пра дзіка і чалавека" з прысвячэннем яму. Аднак у кнігах прысвячэнне чамусьці адсутнічала. Гэта мяне зацікавіла. Паглядзеўшы ў архіве аўтарскі машынапіс кнігі Караткевіча "Мая Іліяда", я неспадзявана выявіў, што з яе ў далёкім 1969 годзе былі выкасаваны ажно дванаццаць прысвячэнняў! Відаць, некаторыя сябры паэта для Галоўліта выглядалі ідэйна небеззаганнымі.

Вось вершы, "падчышчаныя" ад сумніцельных імёнаў: "О любоў мая, Беларусь!" (яго паэт меў неасцярожнасць прысвяціць Ларысе Геніюш), "Генуэзская крэпасць" (ахвяраваная ўжо тады апальнаму Уладзіміру Дамашэвічу), "Дзядзькаў кубак" (з яго паэт піў разам з Васілём Сёмухам), "Скарына пакідае радзіму" (тут пад цэнзарскія нажніцы трапіла імя Вячаслава Рагойшы), "Энкелад" (меў прысвячэнне Валянціну Тарасу, які шмат перакладаў Караткевіча)…

За кожным з прысвячэнняў – свая гісторыя, эпізоды сяброўства, якія павінны вывучацца даследчыкамі. Скажам, "Дзядзькаў кубак" быў напісаны пасля таго, як Васіль Сёмуха разам з Караткевічам пражылі цэлы месяц у Рагачове, у дзядзькі пісьменніка Ігара Грынкевіча. За маладым перакладчыкам сцігавалі тады спецслужбы, і Уладзімір Сымонавіч прапанаваў яму "палітычны прытулак" у зацішным гарадку на беразе Дняпра. Дарэчы, тады ж Сёмухам быў зроблены пераклад на рускую мову рамана "Леаніды не вернуцца на зямлю", які падчас генсакратарства "дарагога Леаніда Ільіча" палахлівымі рэдактарамі быў пераназваны ў "Нельга забыць".

Прысвячэнне Ларысе Геніюш верша "О любоў мая, Беларусь!" прывяло да таго, што гэты кароценькі пяцірадковы твор увогуле вылецеў з "Маёй Іліяды". Ён быў апублікаваны толькі праз васямнаццаць гадоў у пасмяротнай кнізе Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду" (зноў жа – без прысвячэння).

Ці трэба казаць, у якім непрыемным становішчы апынуўся аўтар пасля выхаду "Маёй Іліяды"? Па сведчаннях сучаснікаў, ён абзвоньваў выкінутых з кнігі сяброў і прасіў у іх прабачэння...

Калі ў 2012 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пачаў выходзіць Збор твораў Караткевіча ў 25 тамах, я пацікавіўся, ці будуць там адноўлены выкінутыя цэнзурай імёны? Бо, на жаль, завялася ў нашых выдавецтвах заганная практыка – друкаваць класікаў у савецкіх рэдакцыях. Скажам, "Беларуская навука" выдала 20-томнік Якуба Коласа са знявечанымі за савецкім часам творамі, а першатэксты запіхнула ў каментарыі, дзе іх ніхто ніколі не прачытае. Да гонару "Мастацкай літаратуры", імёны ўсіх 12-ці караткевічаўскіх сяброў былі вернуты на месца.

Нямала пацярпела ад цэнзуры і "Ладдзя Роспачы" – скарачэнняў і правак там безліч. Напрыклад, Смерць гаворыць галоўнаму герою Гервасію Выліваху: "Ты зноў папаўся, беларус". У цэнзураваным тэксце засталося: "Ты зноў папаўся". Ці – Смерць звяртаецца да Гервасія: "Больш за ўсё я не люблю прыходзіць за беларусамі, яны такія прагныя да жыцця". У папраўленым тэксце – "больш за ўсё я не люблю прыходзіць па такіх, як ты". Слова "беларус" камусьці відавочна замінала ў "Ладдзі Роспачы", як яно аказалася лішнім і ў сучасных нашых пашпартах.

Знайшоў цэнзар у аповесці і яшчэ больш крамольныя радкі. Аўтар налічыў на беларускай зямлі ажно тры ўваходы ў пекла – пры рацэ Іпуць (Гомельшчына), ля Ржаўца пад Юхнавым (Смаленшчына) і ля Макруш пад Бельскам (Беласточчына). Адгадайце, колькі ўваходаў у пекла засталося ў тэксце пасля таго, як па ім пахадзіў цэнзарскі аловак? Правільна: толькі той, што на Гомельшчыне...

Можна толькі ўявіць, колькіх нерваў такое рэдагаванне-цэнзураванне каштавала Уладзіміру Караткевічу! А ён жа цярпець не мог ніякага ўмяшання ў свае тэксты і, прыкладам, на шматлікія заўвагі рэдактара "Каласоў пад сярпом тваім" заявіў яму проста ў вочы: "І коскі з месца не зрушу!".

Але зрушвалі і без аўтара – што хацелі і як хацелі. І Караткевіч дзе толькі было магчыма стараўся аднавіць нейкія каларытныя слоўцы. У маім зборы ёсць унікальны асобнік кнігі "З вякоў мінулых", падараваны мне старым беларускім настаўнікам з Вільнюса Аляксеем Анішчыкам. Дык там у той жа "Ладдзі Роспачы" рукой пісьменніка тройчы закрэслена слова "плытагоны" і ўпісана, перапрашаю, "вадасёры". І, трэба прызнаць, у эмацыйных рэпліках Гервасія Вылівахі апошнія выглядаюць на сваім месцы.

На сваім месцы яны і ў згаданым 25-томніку, які працягвае выходзіць у свет. На яго старонках чытачоў чакае сапраўдны Караткевіч – сур'ёзны і жартаўлівы, смелы і шляхотны, а галоўнае – не сапсаваны цэнзурай.

ЧУЛІ?

## Кангрэса беларусістаў не будзе

*Арганізацыйны камітэт Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі паведаміў, што запланаваны ў нашай краіне на 2018 год VIII кангрэс не адбудзецца.*

Працяглыя перамовы арганізатараў і прадстаўнікоў акадэмічнай супольнасці з дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі станоўчых вынікаў не далі.

Раней паведамлялася, што сёлетні кангрэс упершыню пройдзе ў Беларусі (сем папярэдніх навуковых форумаў адбыліся за мяжой, пераважна ў літоўскім Каўнасе, на іх збіралася да 500 дэлегатаў з многіх краін свету).

Па словах старшыні Аргкамітэта Андрэя Казакевіча, наступны Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі пройдзе зноў за мяжой у 2019 годзе. Сёлета плануецца толькі даць прэміі кангрэса даследчыкам за найлепшыя навуковыя публікацыі па выніках 2017 года.

**Антон ЗАЛЕСКІ.**

ВПЕЧАТЛЕНИЯ

# По дорогам Трансильвании

*Какие ассоциации у вас возникают при слове «Румыния»? Кто-то вспомнит черноморский берег страны, где он отдыхал. Кто-то знает о политике Николае Чаушеску или гимнастке Наде Команечи. А кому-то на память придут граф Дракула и цыгане. Вот, пожалуй, и все.*

## Контрасты

Румыния – самое большое государство в Юго-Восточной Европе. По численности населения (19,5 миллиона человек) занимает девятое место в Европе. Столица страны Бухарест – тот самый город, куда уезжали романтичная Мона, героиня Анастасии Вертинской, и циничный Григ в исполнении Михаила Казакова из «Безымянной звезды».

Скажу честно, Бухарест произвел немного странное впечатление. Я привыкла к тому, что предыдущие путешествия оставляли исключительно восторженные впечатления. В румынской же столице каждая следующая картинка отрицала предыдущую. Или противоречила ей. Может, в контрастах и заключается своеобразие города?

Шикарный, хорошо сохранившийся исторический центр, где дворцы и особняки XIX века отданы многочисленным банкам и бизнес-структурам, а также, что удивительно, университетским факультетам. И рядом, в этом же центре, – заброшенные, с проржавевшими крышами старинные здания, в которых явно никто не живет и на реконструкцию которых, видимо, нет средств.

Улыбчивые официантки в ближайшей пиццерии, где я иногда обедала, – и угрюмые лифтер и горничная в отеле. Представить такие нелюбезные лица в Италии, Испании невозможно – там все, кто работает в сфере туризма, излучают радость и дружелюбие. Возможно, навыки, необходимые, чтобы принимать огромный туристический поток, приходят не сразу? Напомню, Румыния вступила в ЕС чуть больше десяти лет назад, в 2007-м.

С другой стороны, в историческом центре Бухареста немыслимое количество кафешек. Далеко не все они заполнены. Может, в апреле, когда я прогуливалась по румынской столице, туристический бум еще не начался? Уличные кафе разные. Все стараются привлечь потенциальных посетителей чем-то особенным – музыкой, интерьером (например, яркими подушками, столами и стульями, составленными из дощечек разного цвета). И, понятное дело, меню.

Знаменитый румынский парламент тоже произвел двойственное впечатление. Дворец считается крупнейшим в Европе гражданским административным зданием и крупнейшим зданием парламента (размеры 270 на 240 метров, высота – 86). Во дворце 12 этажей, 1100 комнат, 4 подземных достроенных уровня – подземная часть дворца имеет в глубину 92 метра.

До изысканной красоты венгерского парламента румынский явно не дотягивает. Понятно, он памятник советской гигантомании. Когда в интернете находишь сведения, что строительство потребовало уничтожения пятой части исторического центра и вызвало многочисленные протесты, так как было разрушено множество церквей, то думаешь: а зачем уничтожали, а потом строили? Какой в этом был смысл?.. Площадь напротив парламента пустынная, огромная, хоть мимо и проносятся потоки машин. Территория создает впечатление неуютности, несоразмерности человеку.

Около дворца остановка туристического автобуса. Двухэтажного, красного цвета. В таких обычно хорошо осматривать центр города. Особенно когда в наушниках идет текст на понятном языке. Постояла около расписания, но автобус вовремя не появился. Возможно, еще не разгар туристического сезона, поэтому пассажиров не насобираешь. Но тогда объявляйте, с какого времени работаете. А то остается чувство досады.



Знаменитый замок Корвинов, в котором, по легенде, свергнутый с престола Влад Цепеш III (известный как граф Дракула) провел в заточении 7 лет.



Бухарест. Исторический центр.



Бухарест. Скульптура у театра.



Брашов. Екатерининские ворота.

## А что у нас в плюсе?

Позитива в Бухаресте, конечно, хватало. Из Минска я уезжала в середине апреля, когда у нас было еще холодно. А здесь – цветущие, нарядные деревья, прелестный парк в центре города. Клумбы с цветами вокруг озерца и рукотворных фонтанов. Скамейки, заполненные оживленными отдыхающими горожанами. В общем, благодать! В такой атмосфере сразу чувствуешь: твой отпуск наконец-то начался. Положительных эмоций добавляло и то, что в Бухаресте я жила в центре города, в десяти минутах ходьбы от исторических кварталов. Не надо тратиться на транспорт, все самое интересное можно обойти пешком.

Тот, кто бывал в Румынии, неизменно хвалит тамошнюю выпечку. Привлекательную по ценам, еще теплую с пылу с жару, ту, что продается на улице. Попробовала и я. Действительно вкусно! Мака в кренделях оказалось больше, чем теста. Насыпали щедро. А еще и приятный лимонный аромат вдобавок…

На одной из площадей столицы обнаружила многоэтажный торговый центр. На сплошной черно-графитовой стене огромными буквами названия известных брендов: Bershka, Stradivarius, H&M, Pimkie. Ну и как туда не заглянуть?! А вдруг счастье скрывается именно там? Несколько нужных покупок я сделала.

Кстати, о деньгах. Курс румынской леи очень удобный: цену делишь пополам и получаешь сумму в белорусских рублях. Не надо каждый раз калькулятор на мобильнике открывать.

Заграничные путешествия убеждают: если удается, пускай и частично, победить женскую страсть забегать в каждый третий магазин в поисках актуальных моделей, фасонов и скидок, то свободного времени становится в два, а то и в три раза больше. Хватает, чтобы неторопливо осмотреть все достопримечательности, просто посидеть в парке и подышать свежим воздухом. Да и деньги не разлетаются с дикой скоростью.

Когда покидала Бухарест, чувство неудовлетворенности все-таки бередило то ли сознание, то ли подсознание. И я все пыталась понять: почему впечатления не соответствовали ожиданиям?

Может, дорога длинная? Все-таки Румыния находится неблизко от нас. Сначала едешь от Минска до Бреста, потом до Варшавы. Там ночевка, ранний подъем, перелет...

Может, влияет языковой барьер и отсутствие английского дублирования в названиях? Но во Франции и Испании их тоже нет.

А может, все проще: надо выбирать для путешествия страну подороже (типа Италии или Хорватии) – и будет вам счастье и соответствующий сервис?

А пока Румыния оставалась для меня «вещью в себе». Закрытой и не очень понятной. Суть ускользала…

Но неожиданно впечатления, которые оставили небольшие города Трансильвании Брашов и Сибиу, помогли почувствовать все очарование страны.

## В камерном пространстве

Чтобы добраться до Брашова, нужно ехать от Бухареста на север страны. Езды часа три, но путь очень романтический. За окнами с одной стороны – поля, зеленая равнина или хвойные леса, с другой – горы. Это Южные Карпаты, иначе их называют Трансильванскими Альпами. Мощь гор – того, что создано природой, а не человеком, – всегда впечатляет. Как и их цвет: зеленые внизу, они вздымаются ввысь серо-коричневыми изломами, их снежные шапки уходят в небо.

В обоих городах попалось колоритное жилье. В Брашове хозяева двухэтажного дома сдают комнаты туристам, а сами живут в другом месте. Вроде дом и похож на деревенскую хату, но со всеми удобствами. Просторная кухня, два душа, множество помещений для хранения. Много цветов – в вазах, горшках, кадках.

Хозяйка Кристина – художница, преподает декоративное искусство. Человек с художественным взглядом на мир, поэтому в каждом уголке квартиры встречались предметы, которые хотелось подолгу рассматривать: керамические блюда и чашки неровной формы и бирюзового цвета, картины из букетов цветов…

Впечатлила огромная гостиная, расположенная на нижнем этаже дома. Стол для большого количества гостей, камин, телевизор. Пледы на стульях («А вдруг гостям прохладно?»), гитара («А вдруг захотите поиграть?»). Оказывается, жить можно и так. Просторно и художественно. Один минус: в апреле дом не отапливался. В моей комнате было так холодно, что приходилось натягивать на себя всю одежду из чемодана. Понятно, что позднее, в июльскую жару, такая прохлада жильцам будет только в радость.

Впечатления от этих двух трансильванских городов убедили: если хочешь отдохнуть, то выбирать стоит города небольшие, камерные. Где меньше шума, транспорта и большие пешеходные зоны.

Уже позднее узнала: Брашов – один из десяти крупнейших городов страны. И хоть я жила вроде бы недалеко от старого города, от вокзала до моего жилья на такси пришлось ехать 5 километров. Иногда Брашов называют румынским Зальцбургом. Поэтично, но те, кто бывал и там, и там, говорят, что это некоторое преувеличение. Брашов всегда считался одной из экономических, исторических и культурных столиц трансильванских саксов. В нем сохранились готические кварталы, а Черная церковь, возведенная в 1380 году, самый вместительный памятник готики в стране.

Я сильно удивилась, сопоставив два факта. В Брашове 228 тысяч жителей (для сравнения: в Бобруйске на 10 тысяч меньше). Тем не менее в городе есть своя филармония, Дворец оперы, Театр драмы и Театр марионетки (кукольный). Действуют музеи искусства, этнографии, истории. Вопрос на засыпку: могут ли наши областные города, где жителей намного больше, похвастаться наличием своей оперы?

У меня была возможность побродить по улицам Брашова в течение двух дней. Назавтра после приезда отправилась в центр. И… буквально не узнала его. Вчера еще тихая и спокойная главная площадь с ратушей (кстати, возведенной в XV веке) буквально гудела. Оказывается, в субботу как раз проходил праздник города. Как обычно, по периметру площади на свежем воздухе расположилось множество кафе. Румынский клуб ретроавтомобилей организовал презентабельную выставку раритетных авто, около них каждый стремился сделать селфи. Чтобы потом поразить воображение знакомых в соцсетях: мол, посмотрите, какую я себе крутую машину купил!

Одну часть площади отдали финалистам марафонского забега. Он шел по горам и местностям на разной высоте. Ведущий радостно приветствовал каждого достигшего финиша; ближе к вечеру вручали награды. Как ни странно, среди бегунов оказалось много людей средних лет. Не только выносливые, спортивного вида парни, но и девушки и женщины 40–45 лет. Это впечатляет! Недалеко от ратуши под тентами каждому бегуну выдавали – чтобы подкрепился! – по тарелочке аппетитного блюда: тефтели-галушки плюс картошка, и все залито густой ароматной бежево-коричневой подливой.

В общем, площадь гудела, хохотала и веселилась. Дети залезали в фонтан, катались на велосипедах. Взрослые сидели в уличных кафешках или прогуливались семьями. Спортсмены бурно встречали каждого прибывшего к финишу…

Весеннее румынское солнце светило так ярко, что с непривычки можно было и обгореть. А высоко над городом на горном склоне среди зелени красовались огромные буквы – BRASOV. Выглядело почти как HOLLIWOOD. На мой взгляд, остроумно и с уважением к городу.

Ну, а дальше мой путь через Сибиу, еще один прелестный румынский городок, лежал в Баварию – в Мюнхен и Нюрнберг. Но об этом – в следующий раз…

**Ксения МИХАЙЛОВСКАЯ.**

